# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950 года

Аўторак, 7 чэрвеня 1994 года

№ 59 (10759)

Цана 100 руб.


## Прэзідэнцкі марафон

### ЧАКАЮЦЬ ВЫБАРШЧЫКАЎ

З усёй адказнасцю рыхтуюцца да выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у горадзе Маладзечна. Тут арганізаваны трыццаць тры выбарчыя ўчасткі. Падрыхтавана неабходная атрыбутыка, сімволіка. Памяшканні, якія патрабавалі рамонту, прыведзены ў парадак. Складзены спіс выбаршчыкаў. Распрацаваны і зацверджаны графікі дзяжурства на выбарчых участках. Кожны, хто пажадае пабываць тут, атрымае неабходную інфармацыю як па самой працэдуры галасавання, так і аб тых, хто вылучаў сваю кандыдатуру на пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

/НАШ КАР./.

### КАМІТЭТ "ЗА РОЎНЫЯ МАГЧЫМАСЦІ" ЗАЯЎЛЯЕ...

У Мінску адбыўся брыфінг для журналістаў, які правёў грамадскі камітэт «За роўныя магчымасці». Прадстаўнікі гэтай арганізацыі падкрэслілі, што, на іх думку, для прэтэндэнтаў створаны няроўныя магчымасці барацьбы за пасаду Прэзідэнта.

Грамадскі камітэт «За роўныя магчымасці», адным з сустаршынь якога з"яўляецца вядомы пісьменнік Іван Чыгрынаў, распаўсюдзіў сярод журналістаў заяву. У ёй, у прыватнасці, гаворыцца: «Выклікаюць насцярожанасць і трывогу за будучыню беларускай дэмакратыі факты прамога адміністрацыйнага націску на сродкі масавай інфармацыі і асобных журналістаў, якія выступаюць з крытыкай афіцыйнай палітыкі ўрада...»

Далей адзначаецца, што камітэт рашуча выступае супраць манаполіі на сродкі масавай інфармацыі і адміністрацыйных метадаў кіравання імі. Прыводзілася некалькі прыкладаў, сярод якіх, у прыватнасці, спроба пад выглядам рэарганізацыі фактычна ліквідаваць радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная» і «Крыніца». А адсутнасць лаяльнасці да сённяшняга ўрада і яго кіраўніка не можа па цывілізаваных мерках лічыцца падставай для таго, каб пазбавіць насельніцтва крыніц інфармацыі, а радыёжурналістаў — права на прафесію.

Грамадскі камітэт «За роўныя магчымасці» звярнуўся да Цэнтральнай выбарчай камісіі, Камісіі Вярхоўнага Савета па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека з заклікам забяспечыць поўную адпаведнасць ходу прэзідэнцкай кампаніі патрабаванням Закона «Аб выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь». Паабяцана пастаянна інфармаваць міжнароднае супольніцтва аб ходзе выбараў першага Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

БЕЛІНФАРМ.

### ЗАЯВАК ПАКУЛЬ НЕ ПАСТУПІЛА

У Барысаўскім раёне створаны 54 выбарчыя ўчасткі. Менавіта там і праводзіцца ўся падрыхтоўчая работа. Як адзначыў намеснік старшыні раённай выбарчай камісіі М.Каршакевіч, пытанні падрыхтоўкі і правядзення выбараў былі абмеркаваны на нарадзе старшынь сельскіх Саветаў. Згодна з вызначаным Законам аб выбарах Прэзідэнта тэрмінам сфарміраваны і абнародаваны праз мясцовую газету «Адзінства» саставы ўчастковых выбарчых камісій і межы ўчасткаў. Для работы ў камісіях падабраны памяшканні з тэлефонамі.

Члены раённай камісіі праверылі сапраўднасць подпісаў у перададзеных падпісных лістах па вылучэнню прэтэндэнтаў у кандыдаты на прэзідэнцкую пасаду. Частка падпісных лістоў забракавана.

— На мінулым тыдні ўчастковым камісіям перададзены бланкі запрашэнняў, у якія на месцах уносяцца канкрэтныя прозвішчы выбаршчыкаў, — дадае Мікалай Іванавіч. — Ва ўсіх населеных пунктах вывешаны календары, сёння на ўчастках з"явяцца дакладныя спісы выбаршчыкаў. Як прадугледжана Законам аб выбарах, з 27 мая мы гатовы былі аказаць садзейнічанне кандыдатам у арганізацыі і правядзенні сустрэч з выбаршчыкамі. Але да гэтага часу ні ад аднаго з іх заявак на сустрэчы не паступіла.

Мікалай ЧАЛЕЙ.

### ЛУКАШЭНКА ТРАПІЎ У АВАРЫЮ

Другі этап перадвыбарнай кампаніі кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Лукашэнкі пачаўся з аўтамабільнай аварыі. Аляксандр Рыгоравіч трапіў у яе па дарозе да выбаршчыкаў у Гродна. На шчасце, усё абышлося без сур"ёзных вынікаў. Аднак назначаная на 17 гадзін сустрэча ў скверы ля Дома культуры тэкстыльшчыкаў у абласным цэнтры пачалася з паўтарагадзінным спазненнем.

«Мы яшчэ будзем разбірацца, хто вінаваты ў здарэнні, — сказаў кандыдат у прэзідэнты. — Але аварыямі нас не запалохаеш».

Мітынг у падтрымку Аляксандра Лукашэнкі прайшоў пад лозунгам «Лёс Айчыны — у руках народа». Кандыдат паабяцаў: «Ні пры якіх умовах я не сагнуся і не здраджу. Калі будзе гараваць народ, уладныя людзі панстваваць не будуць».

Члены ініцыятыўнай групы Аляксандра Лукашэнкі ў сваіх выступленнях падкрэслівалі, што для рэарганізацыі дзяржавы рэспубліцы патрэбны «палітык з маладымі, чыстымі і энергічнымі рукамі. Патрэбны чалавек смелы і са здаровай псіхікай». Менавіта гэтыя якасці прысутныя ўбачылі ў Аляксандра Лукашэнкі.

БЕЛІНФАРМ.

### ТРАНСПАРТ ПАЛІВАМ ЗАБЯСПЕЧАНЫ

Стаўбцоўская раённая камісія па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь знаходзіцца ў будынку райвыканкома. Тут можна пазнаёміцца з артыкуламі ў газетах і часопісах, у якіх прэтэндэнты на гэтую пасаду ў той ці іншай форме выкладалі свой погляд на праблемы развіцця эканоміка-сацыяльнай сферы ў рэспубліцы. Хутка, як вядома, з"явяцца больш разгорнутыя праграмы ўсіх 6 кандыдатаў, і тады работы мясцовым уладам прыбавіцца.

Арганізавана дзяжурства членаў выбарчай камісіі /а іх 13 чалавек/ з 8.00 да 19.00 штодзённа, у суботу і нядзелю — з 9.00 да 14.00. Члены камісіі замацаваны таксама за выбарчымі ўчасткамі. Яны аказваюць дапамогу ў арганізацыі гэтай важнай справы. Практычна заканчваецца складанне спісаў выбаршчыкаў. Старшыня камісіі Т.М.Мазур расказвае:

— У вёсках кожны чалавек навідавоку. Ды і ў сельсаветах ёсць кнігі ўліку насельніцтва. Цяжэй было гэта рабіць у райцэнтры, дзе шмат ведамасных дамоў, дзе назіраецца прыезд-выезд людзей. Мы падключылі настаўнікаў, медыкаў. Яны дапамаглі ўзяць на ўлік усё дарослае насельніцтва.

У каго з кандыдатаў ёсць шанцы атрымаць на Стаўбцоўшчыне найбольш галасоў? Згодна са спісамі, сабранымі ініцыятыўнымі групамі, большасць выбаршчыкаў за В.Кебіча, А.Дубко і А.Лукашэнку.

Выбарчыя ўчасткі зараз папаўняюцца неабходным інвентаром. І што немалаважна, вырашана пытанне з палівам для транспарту, які будзе задзейнічаны 23 чэрвеня.

/НАШ КАР./.




## ФАКТЫ • ПАДЗЕІ • АРГУМЕНТЫ • МЕРКАВАННІ

### ЗАСЛУГІ — АСАБЛІВЫЯ

Каму не вядома імя Кузьмы Іванавіча Шаплыкі — патомнага хлебароба, баявога партызана, нязменнага вось ужо амаль 50 гадоў старшыні славутага калгаса «Чырвоная змена» Любанскага раёна, Героя Сацыялістычнай Працы, ці заслужанага дзеяча навукі Беларусі прафесара-уролага Вячаслава Андрэевіча Мохарта. Іх уклад у эканамічнае і навуковае развіццё рэспублікі неацэнны. Сёння гэтыя людзі атрымліваюць сціплыя пенсіі па ўзросту, якія далёкія ад таго, што яны зрабілі для ўсіх нас. Таму недарма выканкам абласнога Савета звярнуўся ў адпаведную камісію Савета Міністраў наконт устанаўлення ім пенсій за асаблівыя заслугі перад Рэспублікай Беларусь.

У спісе прэтэндэнтаў на «персаналкі» таксама С.Т.Анісаў — заслужаны работнік сельскай гаспадаркі, які доўгі час узначальваў калектыў Любанскай райсельгастэхнікі, Г.Ю.Баранчук — заслужаны правізар, загадчыца аптэкі № 189 у Смалявічах, В.І.Барысік — Герой Сацыялістычнай Працы, кавалер двух ордэнаў Леніна, ордэна Айчыннай вайны, медалёў, майстар Старадарожскай ПМК-73, А.П.Герачынская — заслужаны настаўнік рэспублікі, настаўніца Усяжскай сярэдняй школы Смалявіцкага раёна, М.Т.Кіеня — заслужаны настаўнік рэспублікі, настаўнік Быстрыцкай сярэдняй школы Капыльскага раёна, М.І.Качаткова — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі рэспублікі, якая доўгі час працавала на будоўлях, птушніцай Смалявіцкай бройлернай птушкафабрыкі.

Смачна і нядорага можна паабедаць у «Карчме», якая знаходзіцца на тэрыторыі Старадарожскай МПМК-232. Тут заўсёды разнастайнае меню — салаты, першыя і другія стравы, сокі, кандытарскія вырабы.

**На здымку:** наведвальнікаў сустракаюць повар Наталля **Жукавец** і загадчыца Наталля **Праташчык.**

Фота Анатоля БАСАВА.

### Будучыня праграмы "Дызель"

**Вытворчасць уласных дызельных рухавікоў — адна з самых важных частак праграмы структурнай перабудовы беларускай эканомікі. Паколькі народнай гаспадарцы рэспублікі так не хапае гэтых "сэрцаў" для самай разнастайнай тэхнікі.**

**Як і канверсія, што дала магчымасць мець бытавую і медыцынскую тэхніку высокага ўзроўню, праграма "Дызель" больш поўна задзейнічае мясцовую прамысловую базу: выпрабляюцца рухавікі для старых "Ікарусаў", Мінскі трактарны мае намер забяспечыць міні-трактарамі ўсіх фермераў, а ў недалёкім будучым пачне ствараць аўтобусы тыпу "Неаплан"...**

**А калегія Дзяржкампрома сваё пасяджэнне, прысвечанае вытворчасці дызеляў, правяла на Мінскім маторным заводзе. Старшыня Дзяржаўнага камітэта рэспублікі па прамысловасці і міжгаліновых вытворчасцях Уладзімір Куранкоў выказаў надзею, што даволі важкай навукова-тэхнічнай базе беларускай прамысловасці рана ці позна пачне адпавядаць ініцыятыва кіраўнікоў прамысловых прадпрыемстваў.**

БЕЛІНФАРМ.

## НЕ СОРАМНА І ПАХВАЛІЦЦА

***У гаспадарках Мінскага раёна надой ад каровы ў гэтыя дні на 800 грамаў вышэйшы, чым летась***

**Паводле звестак аблсельгасхарча, жывёлаводы раёна, перавёўшы дойны статак на пашавае ўтрыманне, дабіваюцца поспехаў, якія заўважаны ў вобласці. Калі гэтую навіну мы паведамілі намесніку начальніка райсельгасхарча М.М.Рабушку, які курыруе пытанні жывёлагадоўлі, ён не без здзіўлення прызнаўся:"А мы не задумваліся, што дабіліся чагосьці вельмі прыкметнага. Проста ва ўсіх гаспадарках людзі працуюць, стараюцца..."**

— Калі гаварыць канкрэтна, — працягваў Міхаіл Мікалаевіч, — то цяпер сярэдні надой ад каровы па раёне складае 11,5 кілаграма. Павялічыўся, вядома, і валавы выхад малака. У калгасе "Вішнёўка", напрыклад, дзённы валавы надой складае 125 працэнтаў у параўнанні з леташнім. У вучгасе імя Фрунзе ён дасягнуў 130 працэнтаў, а ў Ждановіцкім цяплічным камбінаце — 132. У гэтых, ды і іншых гаспадарках за дзень ад каровы атрымліваюць па 13,5-15 кілаграмаў малака. І што прыемна, прыбаўка з кожным днём павялічваецца.

— Паша пашай, але якія яшчэ фактары садзейнічаюць росту надояў?

— На тэрыторыі нашага раёна няма натуральных выпасаў. А таму спецыялісты і жывёлаводы імкнуцца як мага больш рацыянальна выкарыстаць кожны квадратны метр пашы. Для гэтага яшчэ да выхаду жывёлы са стойлаў ва ўсіх гаспадарках былі выгараджаны прагоны, набыты ці адрамантаваны камплекты электраагароджы, каб травастой спасваць толькі парцыённым метадам. Сёння можаце наведаць любы ўчастак пашы — і там, дзе пасецца статак, абавязкова ўбачыце карыты з вадой, соль-лізунец.

Сёння цяжка набыць аміячныя ўгнаенні для падкормкі травастою. Таму вялікая адказнасць кладзецца на механізаваныя звенні па догляду выпасаў. Звеннявыя строга сочаць за тым, каб жывёла кожны раз, прыйшоўшы на новы ўчастак, атрымлівала маладыя сакавіты травастой, які найбольш багаты на карацін, страўны пратэін.

Каб зацікавіць людзей у дасягненні лепшых вынікаў, ва ўсіх калгасах і саўгасах аплата іх працы пастаўлена ў прамую залежнасць ад выхаду малака.

Іван АБАБУРКА.

## Ці прыйдзе лад у "Кінавідэапракат"?

Амаль усё працоўнае жыццё Міхаіла Васільевіча Міхейчыка звязана з кінафікацыяй. Васемнаццаты год працуе дырэктарам Смалявіцкага філіяла вытворчага прадпрыемства «Кінавідэапракат». Атрымліваў пераходныя сцягі, прэміі, дыпломы.

— А цяпер хоць бяры торбу і ў прочкі ідзі, — гаворыць Міхаіл Васільевіч.

І яго зразумець не цяжка. З-за адсутнасці гаруча-змазачных матэрыялаў фільмы не дастаўляюцца да месц кінапаказу. Выкарыстанне паштовых машын не дае патрэбных вынікаў. Лепшыя кадры кіно разбягаюцца. Звольніліся Надзея Адамаўна Казлоўская /25 гадоў працавала ў кінафікацыі/, Леанід Іванавіч Нікіцін, Іван Іванавіч Купрэйчык, Жанна Сцяпанаўна Прыстром. Ды ці варта працягваць пералік? Больш важна адзначыць, што з 58 кінаўстановак у раёне засталося 15. І яны дыхаюць на ладан.

Міхаіл Васільевіч скардзіўся і на змест фільмаў. За апошнія пяць гадоў не паступіла ні аднаго больш-менш значнага дзіцячага фільма. Ды і для дарослых, як ні паглядзі, каштоўнага мала: бойкі, жахі, секс... Страшна падумаць, што чакае маладое пакаленне, выхаванае на такіх «шэдэўрах». Дарэчы, сённяшніх юнакоў і дзяўчат фільмы айчыннай вытворчасці зусім не цікавяць.

— Доўга так будзе працягвацца? — пытаю ў дырэктара «Кінавідэапраката».

— Не ведаю. Каб неяк выжыць, здалі ў арэнду кабінет дырэктара гарадскога кінатэатра. Гаспадарамі нашых гаражоў таксама сталі прадпрымальнікі, — адказаў Міхейчык.

Вось да чаго давяло непрадуманае баляванне ў Віскулях белавежскіх «зуброў». А адзін з іх, не зразумеўшы тых згубных крокаў, яшчэ ў прэзідэнты трапіць наважыўся.

/НАШ КАР./



### НАДВОР'Е

*Сёння ўдзень па вобласці чакаецца воблачнае надвор'е, на большай частцы тэрыторыі — дажджы. Тэмпература паветра — 13--18, у Мінску — 15--17 градусаў цяпла, дождж.*

## МАЛАДЗЕЧАНСКІЯ НАВІНЫ

### КАФЭ ДЛЯ ВЫБРАНЫХ?

Менавіта так называюць іншы раз маладзечанцы папулярнае ў горадзе кафэ "Ля гасцінца". Гэта так і не зусім так. Цэны ў ім — ніжэйшыя за некаторыя рэстаранныя. А кухня... Кажуць, роўнай ёй няма ў Маладзечне.

Па задуме арганізатараў кафэ — супрацоўнікаў фірмы "Рэста", яно павінна было стаць установай, дзе можна не толькі добра адпачыць, а і з карысцю правесці вольны час. І сапраўды, тут, "Ля гасцінца", пабывалі ўжо многія зоркі беларускай эстрады. Два разы ў месяц у кафэ праводзяцца музычныя серады, на якіх выступаюць спевакі, танцоры.А нядаўна адбыўся першы тур конкурсу топ-мадэлей рэкламнага агенцтва "Таміра".

### БЕССМЯРОТНАЯ «АВЭ МАРЫЯ»

Ужо каторы раз загучала на сцэне Маладзечанскага музычнага вучылішча імя Агінскага. Цяпер сусветна вядомую мелодыю Шуберта выканала госця горада, народная артыстка СССР Святлана Данілюк. З яе яна пачала сваё выступленне.

Зорка вакалу наведала Маладзечна другі раз. Напэўна, спявачку, якой апладзіравалі ў Балгарыі і Польшчы, Англіі і Францыі, прыцягвае добразычлівасць маладзечанскай публікі, падрыхтаванасць аўдыторыі да ўспрымання твораў сусветнага мастацтва. У рэпертуары Святланы Данілюк — папулярныя творы рускіх і замежных кампазітараў — арыі з опер, песні, рамансы.

На «біс» прагучала «Хабанэра» з оперы Бізэ «Кармэн»

### АПОШНІ АЎКЦЫЁН

Ім, па сутнасці, завершана праграма прыватызацыі аб"ектаў камунальнай уласнасці, прынятая сесіяй Маладзечанскага гарадскога Савета дэпутатаў. Арганізавалі гэты конкурс-аўкцыён адкрытае акцыянернае таварыства "Бізнес-цэнтр" сумесна з адкрытым акцыянерным таварыствам "Заходняя біржа нерухомасці".

Барацьба за права валодання нерухомасцю разгарнулася паміж дзевяццю фірмамі горада. Яна была вельмі напружаная. Гэта і зразумела: прадпрымальнікі імкнуліся не ўпусціць апошні шанц. У выніку канчатковая цана перавышала стартавую ў дзесяткі разоў. А між іншым на аўкцыён выстаўляліся далёка не самыя прэстыжныя аб"екты. Галантарэйная палатка — некапітальная пабудова пайшла за 500 мільёнаў рублёў /ацэначны кошт — 18 мільёнаў/. Магазін на тэрыторыі гарадскога рынку набыты за 750 мільёнаў рублёў пры стартавай цане 51 мільён.

Такім чынам пераважная большасць аб"ектаў камунальнай уласнасці памяняла сваіх гаспадароў. Асноўная іх частка ўвайшла ў склад акцыянерных таварыстваў адкрытага тыпу, створаных на базе гарадскога гандлёвага вытворчага аб"яднання і гарплодаагароднінагандлю.

— Працэс акцыяніравання дастаткова працяглы, — гаворыць намеснік старшыні Маладзечанскага гарвыканкома па эканоміцы Яфім Аронавіч Ідэльчык. — Сказаць, што акцыянернае таварыства адбылося, можна будзе тады, калі пойдзе працэс продажу акцый. Першыя вынікі будуць відаць прыкладна ў верасні. А пакуль што таварыствы афіцыйна зарэгістраваны, распачата правядзенне мерапрыемстваў па падпісцы на акцыі.

Асноўны акцэнт у рабоце па прыватызацыі зроблены на адладжванні механізма кантролю за дзейнасцю прыватызаваных аб"ектаў.

### «ФОЛЬКСВАГЕН» ДЛЯ ПРАВААХОЎНІКАЎ

Гэты шчодры падарунак атрымалі ў час паездкі ў нямецкі горад-партнёр Эслінген супрацоўнікі Маладзечанскага гаррайаддзела ўнутраных спраў. А яшчэ — тэлевізар і пішучую машынку, медыкаменты для дзіцячай бальніцы. І, безумоўна, безліч уражанняў ад сяброўскага візіту.

Была сустрэча ў дырэктараце паліцыі, падрабязнае знаёмства з яе структурнымі падраздзяленнямі. Быў гасцінны прыём у бургамістра, знаёмства з мясцовай школай паліцыі, дзейнасцю спецпаліцыі па барацьбе з тэрарызмам, якая дзейнічае ў рамках Інтэрпола.

Цяпер маладзечанцы чакаюць у госці сваіх нямецкіх калег.

Марыя КУЗАЎКІНА.

## Канікулы

## У каралеўстве крывых люстэркаў

Лета 1994 года. Хоць бы ты злітавалася над намі. Раней адорвала такім ласкавым сонейкам, так прыпякала, што паратунку ў цяньку шукалі. А сёлета дажджы — надакучлівыя, спорныя. І цяпер, калі пішуцца гэтыя радкі, дажджавыя кроплі, з боб велічынёю, нібы цапы на сялянскім таку б'юць па шыбах. А дыктары радыё салаўямі заліваюцца: «Ёсць пуцёўкі на Поўдзень, кошт — два мільёны рублёў. Запрашаем свой адпачынак правесці на Канарскіх астравах. Дзіцячыя пуцёўкі таннейшыя...»

Людцы добрыя! Такіх мільёнаў я яшчэ ніколі не меў. А долары нават у руках не трымаў. Ці ж адзін я такі? Сумленнаму чалавеку пра падобны адпачынак застаецца толькі марыць. А дзеткам нашым знаёміцца з Поўднем, з Канарскімі астравамі толькі па геаграфічных картах. Кінем позірк на курортныя мясціны сваёй рэспублікі. І ўсё роўна, як пачуеш кошт дзіцячай пуцёўкі, млосна робіцца: за мільён пераваліла.

Застаецца адно: папраўляць здароўе, набірацца сіл дома. Зрэшты, а ці ўсё і тут падрыхтавана як след? З гэтай нагоды наведаў Смалявіцкі раён.

Яшчэ далёка было да апошняга званка, а ў педагагічных калектывах школ ужо вялася актыўная работа па арганізацыі летняга адпачынку дзяцей. І вось настаў гэты дзень. Што канкрэтна зроблена? У вызначаны тэрмін адбылося ўрачыстае адкрыццё стацыянарнага летніка ля вёскі Плішчына. Ён будзе працаваць тры змены. На першую заехалі 40 школьнікаў. Столькі ж будзе і ў астатніх.

— У летніку створаны ўсе ўмовы для плённай працы і актыўнага адпачынку. Заслуга ў гэтым базавай гаспадаркі — калгаса «Рассвет», якой кіруе Фёдар Рыгоравіч Бацяноўскі, — зазначыў начальнік летніка «Асілак» Мікалай Аліферка.

У 16 навучальных установах пачалі дзейнічаць летнікі з дзённым знаходжаннем дзяцей у школах. У Плiскай СШ, напрыклад, такім аздараўленнем ахоплены 102 хлопчыкі і дзяўчынкі. Начальнікам пляцоўкі прызначылі адну з лепшых настаўніц школы В.А.Мікуліч. І выхавальнікамі зацверджаны вопытныя педагогі. Гэта С.М.Белая, З.А.Туміловіч, В.Г.Яблонская. У гэтай школе да аздараўлення дзяцей падключаны настаўнік спеваў К.Э.Змачынскі і настаўнік фізічнай культуры С.І.Болбас.

Школьная сталовая (загадчыца вытворчасці М.Ф.Сцефановіч) гатуе смачныя стравы. Запланаваны паездкі ў Мінск, дзе будуць праведзены экскурсіі па гістарычных мясцінах. Транспартам забяспечвае Смалявіцкая бройлерная фабрыка, якая шэфствуе над школай.

Кошт дзіцячай пуцёўкі — 200 тысяч рублёў, бацькі плацяць толькі 10 працэнтаў ад гэтай сумы. Рашэннем райвыканкома вызвалены ад такой даплаты мнагадзетныя і малазабяспечаныя бацькі.

Значную суму грошай на арганізацыю летняга адпачынку дзяцей перавёў калгас імя Арджанікідзе. Не засталіся ўбаку ад такой важнай справы калгасы «Пятровічы», «Ленінскі шлях» і інш.

У жніўні пачнуць працаваць профільныя летнікі: спартыўны на 40 чалавек у раёне Волмы і турыстычны, разлічаны на столькі ж школьнікаў. Апошні мяркуецца арганізаваць на Мядзельшчыне. У першым будуць папраўляць здароўе і павышаць майстэрства навучэнцы дзіцячай спартыўнай школы, у другім — юныя прадстаўнікі раённага цэнтра турызму і экскурсій.

На тэрыторыі Смалявіцкага раёна 202 школьнікі, бацькі якіх пераехалі сюды з чарнобыльскай зоны. Яшчэ ў красавіку аддзел адукацыі райвыканкома паклапаціўся аб тым, каб гэтыя дзеці падлячыліся. Дзве групы ўжо вярнуліся з аздараўлення. Яны адпачывалі ў санаторыях «Легмаш» і «Пралеска». Цяпер яшчэ адна група былых чарнобыльцаў папраўляе здароўе ў прафілакторыі «Будаўнік», што каля Крыжоўкі.

— Эканамічная абстаноўка з кожным днём пагаршаецца. Баюся, што і школьныя летнікі не будзе за што ўтрымліваць, — пачуў ад загадчыка аддзела адукацыі райвыканкома В.І.Герасімчыка.

Маці заўсёды лепшы кавалачак аддавала дзецям. А мы ж усе — сыны і дочкі сваёй Айчыны. Дык чаму ж яна аказалася такой неміласэрнай да пакалення, якое ў XXI стагоддзі павядзе трактары ў поле, стане ля станкоў, будзе рабіць адкрыцці ў лабараторыях. Адным словам, не туды нас вядуць рыначнікі. Гэта ж бесчалавечна — прадаваць стацыянарныя летнікі хцівым прадпрымальнікам, накручваць шалёную цану на дзіцячую пуцёўку. Штосьці не тое робім. Інакш бы не атрымлівалася ўсё як у каралеўстве крывых люстэркаў.

Уладзімір КОБРЫН.

■ АПК і рынак

# НІ ЗААХВОЧАНЫ, НІ ПАКАРАНЫ

## Пра што сведчыць гэтае дабрадушша?

Сказаць, што ў калгасе імя Чапаева жывёлагадоўля развіваецца дрэнна, нельга. Аднак за мінулы год на гармалкамбінат адсюль паступіла толькі 74 працэнты першагатунковага малака, а цяпер частка яго ідзе з павышанай механічнай забруджанасцю. У чым справа?

Вось як гэта пракаменціраваў старшыня калгаса М.У.Берант:

— Малако — асноўная прадукцыя, ад рэалізацыі якой гаспадарка атрымлівае рэальныя сродкі. Але сёння мы пастаўлены ў такія ўмовы, што лягчэй прадаць усю калгасную маёмасць, пакласці грошы ў банк і жыць на выручаныя ад укладу працэнты, чым весці вытворчасць сельгаспрадукцыі. Два месяцы не плацім людзям зарплату, не можам купіць аміячную салетру, якая каштуе мільён рублёў за тону.

Для папаўнення калгаснай касы, — працягваў М.У.Берант, — вымушаны займацца ўсялякай камерцыяй. Гандлюем чым можам. Мяркуем нават прадаваць малако і мяса ў навакольных населеных пунктах, бо за рэалізаваную дзяржаве прадукцыю банк не пералічвае гаспадарцы грошы. Выхад з тупіка — толькі ў продажы сваёй прадукцыі праз сістэму рознічнага гандлю без усялякіх пасрэднікаў. І тут якасць выходзіць на першы план.

У тым, што летась гаспадарка прадала значную колькасць малака другога гатунку, 1,8 працэнта — негатунковага, ёсць пэўная віна і спецыялізаванага лінейна-мантажнага ўчастка. З васьмі наяўных халадзільнікаў летась круглы год не працавалі 3. У заключаным з ЛМУ дагаворы штрафныя санкцыі супраць яго не прадугледжаны, што пазбаўляе магчымасці рэальна ўздзейнічаць на работнікаў гэтай арганізацыі. Праўда, па выкліку яны прыязджаюць апошнім часам амаль заўсёды, але ў іх няма неабходных запчастак, а ў гаспадарцы — грошай, каб разлічыцца за работу. Вось і атрымліваецца замкнёнае кола. Ад паслуг ЛМУ нават па абслугоўванню халадзільнікаў праўленне хоча адмовіцца зусім, як ужо адмовіліся ад паслуг іншых раённых службаў. Ёсць для гэтай мэты падрыхтаваны на курсах чалавек і брыгада рамонтнікаў. Патрэбна толькі вырашыць пытанне з набыццём газу фрэону, і тады рамантаваць халадзільнікі будуць свае людзі.

Але ёсць і яшчэ адно пытанне. Не можам нідзе набыць лаўсанавую матэрыю для цадзілак, — зазначае М.У.Берант. — Звычайную марлю цяжка дастаць. А з-за дрэннага працэджвання малака ў ім шмат механічных прымесей, яно кісне...

Слоў няма, псеўдарыначныя адносіны паставілі вёску на калені. Але мы вымушаны канстатаваць, што і само праўленне гаспадаркі дапускае пэўныя пралікі. І заветспецыялісты, і загадчыкі ферм самаўхіліліся ад работы па паляпшэнню якасці малака, бо ніхто з іх за гэта не быў ні заахвочаны, ні пакараны. Існуючымі мерамі матэрыяльнага стымулявання прадугледжана надбаўка да зарплаты ў выпадку, калі 85 працэнтаў малака рэалізуецца першым гатункам. Паколькі ж пачынаючы з верасня мінулага года такой колькасці першагатунковага малака не паступала, то не было і ніякіх даплат. А гэта расхалоджвае людзей.

*Сцяпан БУКАЦІЧ.*
*Барысаўскі раён.*



Нямногія гаспадаркі вобласці займаюцца авечкагадоўляй. А вось у калгасе «За ўладу Саветаў» Маладзечанскага раёна ёсць ферма на 350 галоў. Кіраўніцтва гаспадаркі лічыць яе далейшае развіццё справай перспектыўнай.

**На здымках:** даглядчыкі авечак Іван **БАЖКО** і Лідзія **СЫСУН;** на пашы.

*Фота Анатоля БАСАВА.*

■ Наболело

# ЕШЬ АНАНАСЫ, РЯБЧИКОВ ЖУЙ...

О нет, уважаемые, у современного буржуа, вопреки утверждению поэта, "день последний" не приходит. И, очевидно, пока не придет. Он, его здоровый день накопительства и обжорства, только наступает, благодаря безвластию и экономическому хаосу в суверенной входит в силу.

А этих самых ананасов с павлиньими хвостами, крутобоко-оранжевых апельсинов, нежных киви и ядреных яблок заморского происхождения, этих самых "рябчиков" в виде рыбно-мясных деликатесов и прочего-прочего он, наш буржуа, поглощает куда больше своего предшественника. Причем запивает высшей пробы коньячком и шампанским. А вы ему предлагаете — по сносной цене — настойку "Заславская"! Смех да и только!

Что ему десяток-другой, сотню-другую, миллион-другой "отстегнуть" так называемых "тугриков-баксов" на личную усладу?!. Ведь для того и старается. А нива что ни на есть благодатная — рыночная, где спекуляция — не спекуляция, а бизнес по официальному признанию, наше общее обнищание и бесперспективная немощь.

Нет, ему не грозит весенний авитаминоз с набором, как следствие, всяческих болячек и болезней. Из него так и прут самодовольство и лоск, сытость и уверенность в себе. Его рыночно-спекулятивные убеждения направлены на то, чтобы приспособить жизнь для себя и под себя. На это нацелен его стяжательский интеллект и талант.

А что касается авитаминоза и головокружений от недоедания, болезней и как никогда высокой смертности, то это удел стариков и детей, низкооплачиваемых категорий населения.

О нет, уважаемые! Сейчас как никогда в достатке фруктов и овощей, натуральных и консервированных, разных соков. Они так и переливаются, маня, всеми цветами радуги на полках и лотках. Однако маленькое "но"... Раньше за всем этим жизненно важным великолепием стояли очереди, но, тем не менее, его приобретали — кто больше, кто меньше, каждая семья. Теперь же вроде полный достаток, а вот возьми... Соком налитые парниковые ужи-огурцы в цене десять с половиной тысяч "зайчиков" з 1 кг . А выращенные в натуральном грунте в два раза дороже. А соки, ах, соки... Тот же яблочный или "Верасень" Витебского агропрома, не говоря уже об апельсиновом, — здесь. Но не всякий покупатель осмеливается подойти. Гомельский томатный соус в поллитровой баночке — пять тысяч! Вот и подсчитайте, сколько один грамм, один нюх его, бриллиантового, стоит!..

И это ведь не те самые буржуйские "рябчики", а нашенское, как, например, пуховичская морковь, догоняющая в цене африканские цитрусовые. Вот и возникает вопрос: куда же мы идем?

Ведь даже в примитивно-бытовом понимании рынок — это прежде всего конкуренция, в том числе, разумеется,и цен на товары. Чтобы быстрее сбыть последние, надо пойти на уступки, то есть снизить цену. А у нас наоборот — рост и рост, как в уродливо-заколдованном зеркале. Неужели нет выхода, нет хотя бы отдушины?

В прошлом году, например, довелось побывать в ряде районов. В частности, Березинском, Червенском, Пуховичском, Молодечненском... Вырастили там неплохой урожай овощей и фруктов. Пресытившиеся хрюшки топтали налитые — одно загляденье! — плоды. Вот бы побольше и выжать соков, да и цену сбить, да и детсадовцев-учеников, больных обеспечить, хоть стаканчиком бесплатно в день попотчевать! Но где там — как всегда, ответственные дяди и тети спят в шапку, как всегда, не клеится дело у славной потребкооперации. Зато не спят отдельные предприятия, разного калибра дельцы, взвинчивая цены, набивая кошельки. Вот и везем заморские фрукты и соки — а для кого?! Кому они по карману?

Начавшийся страдный год пока ничего нового не обещает, разве что первого президента: главная забота дня. По-прежнему лелеет он тех, кто так аппетитно пожирает ананасы и "рябчиков". И если поэт ошибся в их жизнестойкости и долголетии, то в другом прав оказался:

Гнет капитала,
голод-уродина,
войн бандитизм,
интервенция ворья...
Горькое, но бытие. Наше бытие.

*Олег ФОМЧЕНКО.*

# «СЛУЖБОВАЯ» ВЕЧАРЫНКА,

## ахвярай якой стаў адзін з яе ўдзельнікаў — участковы міліцыянер

***Вестка імгненна абляцела "шматпавярхоўку", што ў сталічным мікрараёне Серабранка. На лесвічнай пляцоўцы знойдзена цела работніка міліцыі. Прыбыўшыя на месца здарэння аператыўнікі без спецыяльнай экспертызы маглі канстатаваць: гвалтоўная смерць. Побач у беспарадку валяліся прадметы форменнага адзення, табельнай зброі нідзе не аказалася. Знойдзеныя доказы адназначна сведчылі: злачынства ўчынена ў гэтым жа пад"ездзе. Яны і прывялі ў кватэру № 130, дзе пражывала нехта Мазуркевіч.***

...Тым мінулагоднім вераснёўскім вечарам участковы міліцыянер Андрэй Савіцкі адчуў сябе раптам свабодным чалавекам: жонка паехала да сваякоў у вёску. Каб не марнаваць час, вырашыў наведацца да знаёмай Наталлі Мазуркевіч. Была на тое службовая прычына — наспела неабходнасць пагаварыць з апошняй наконт выпіскі з кватэры яе былога мужа. І яшчэ адна... Не столькі службовая, колькі асабістая. Адчуваў участковы міліцыянер да гэтай маладой жанчыны пэўныя сімпатыі. Таму і цешыў сябе надзеяй, што яна дазволіць затрымацца ў сябе даўжэй, чым патрабуецца па службоваму этыкету. А каб не ўзнікла ніякіх асаблівых перашкод, захапіў па дарозе бутэльку "Імперыяла".

Да трагічнай падзеі заставалася некалькі гадзін. Ні Савіцкі, які ўжо вырашыў, як правядзе вечар, ні Мазуркевіч, што ў гэты момант весялілася на дні нараджэння сяброўкі ў суседнім доме, ні яшчэ адзін чалавек па прозвішчу Шапялевіч нават не маглі падумаць, што іх чакае наперадзе. Несумненна, была ў гэтай трагедыі свая выпадковасць. Але калі б з агульнага ланцужка падзей выпала хоць адно звяно, то Шапялевіч не замахнуўся б бутэлькай на Савіцкага. А Мазуркевіч не прыйшлося б дапамагаць выцягваць цела нябожчыка на лесвічную пляцоўку, а потым, калоцячыся ад страху, везці акрываўленыя рэчы да сваёй знаёмай на другі канец горада. Калі б...

Відаць, у кожнай выпадковасці ёсць лагічная заканамернасць. А ў гэтай гісторыі, хутчэй, ракавая заканамернасць. Эдуард Шапялевіч сустрэўся з Мазуркевіч толькі таму, што пасварыўся са сваёй, калі можна так сказаць, нявестай. Каб неяк развеяцца, ён і адшукаў Мазуркевіч, з якою быў знаёмы па "чаўночных рэйсах" у Расію.

Там, на дні нараджэння, Мазуркевіч і шапнула Шапялевічу, што да яе ў дзевяць гадзін вечара павінен зайсці па службовых справах участковы міліцыянер.

— Я вам не стану перашкаджаць, — запэўніў апошні.

Сапраўды, знаёмства прайшло мірна. А калі Савіцкі выставіў на стол бутэльку "Імперыяла", набыло амаль сяброўскі характар. Напэўна, каб яшчэ больш узвысіць сябе ў вачах кампаньёнаў, Савіцкі стаў паказваць ім, як карыстацца зброяй. Даў Шапялевічу патрымаць пісталет. Адначасова не абыходзіў увагай і гаспадыню кватэры, прычым, як здалося Шапялевічу, занадта. Праўда, на яго прапанову паставіць Савіцкага на месца Мазуркевіч сказала, што разбярэцца сама, і, пакінуўшы двух мужчын у спальні, выйшла на кухню. Праз якую хвіліну да яе данёсся незразумелы шум. Кінулася ў пакой, і перад вачыма паўстаў жудасны малюнак: Савіцкі ляжаў мёртвы, а Шапялевіч абвязваў яго галаву поліэтыленам.

— Прыбяры ў кватэры і дапамажы вынесці яго на лесвіцу, — наўздзіў спакойна загадаў ён. Нябожчыка паднялі на ліфце на апошні паверх і кінулі каля памяшкання, што вяло на гарышча. Пісталет, гумавую дубінку, кабуру, наручнікі Шапялевіч паклаў у сумку.

Праз два тыдні ў Адлеры ён добраахвотна прыйдзе ў мясцовы аддзел міліцыі і раскажа пра тое, што здарылася ў тую вераснёўскую ноч у Мінску. Відаць, сумленне замучыла, захацелася зняць цяжкі грэх з душы. Аднак сапраўдныя матывы злачынства назваць у Шапялевіча не хопіць смеласці. Будзе спасылацца на тое, што "заступаўся за Наташу", калі заляцанні Савіцкага сталі вельмі настойлівыя, а ўдарыў бутэлькай таму, што пацярпеўшы пагражаў зараджаным пісталетам.

Следства на падставе выяўленых фактаў і паказанняў сведак прыйдзе да іншага вываду — злачынства было ўчынена з мэтай авалодаць зброяй і маёмасцю ўчастковага міліцыянера. Сама ж Мазуркевіч пацвердзіла, што хоць Савіцкі і дакучаў ёй, аднак сур"ёзнага канфлікту, патрабуючага дзейснага ўмяшання Шапялевіча, не ўзнікла.

Вось так сціплая "службовая" вечарынка закончылася для аднаго з яе ўдзельнікаў смерцю, для дваіх другіх — судом. Віноўнікі панясуць пакаранне. Кіраўніцтва мясцовага аддзела міліцыі, дзе працаваў Савіцкі, зрабіла, напэўна, адпаведныя аргвывады.

Між тым, узнікаюць пытанні наконт службовай адказнасці, аўтарытэту міліцыі, нарэшце, аб дысцыпліне сярод яе работнікаў. Будзем лічыць, што гэты выпадак не заканамернасць. Але застаўся ў нечых руках пісталет Савіцкага. Яго Шапялевіч прадаў невядомай асобе. І дзе гарантыя, што ён калі-небудзь не стрэліць? Доўгая можа аказацца "нітачка". Пачатак якой завязаўся вераснёўскім вечарам у адной з мінскіх кватэр.

*Уладзімір МАЦЭЛЬ,*
*намеснік начальніка аддзела Пракуратуры Рэспублікі Беларусь.*

*Мікалай ЖУЧКО,*
*карэспандэнт "Мінскай праўды".*



# ПЛАВАЦЬ — ДЫК ПА-САПРАЎДНАМУ

***Калгасу "Прамень камуны" Салігорскага раёна не пашанцавала — пад яго землямі прайшлі шахцёры "Беларуськалія". А там, дзе выбралі руду, глеба паціху апускаецца, забалочваецца. І на яе нармальную аддачу ўжо разлічваць нельга.***

Калі ад вады цяжка пазбавіцца, то трэба прымусіць яе служыць чалавеку — так вырашылі спецыялісты. І запланавалі стварыць на забалочаных землях штучнае возера, якое раскінецца на пяці гектарах. У возера запусцяць малявак рыб, там можна будзе купацца, плаваць на лодцы, проста адпачыць, падыхаць свежым паветрам.

Калектыў ПМК-9 ужо вядзе меліярацыйныя работы ў рэчышчы будучага вадасховішча. Няма сумнення: яшчэ адно штучнае возера з"явіцца на карце раёна. Трывожыць іншае. З кожным днём падземныя выпрацоўкі ахопліваюць усё новыя плошчы, зноў забалочваюцца самыя ўрадлівыя на Салігоршчыне глебы. Асушаюцца яны вельмі дрэнна. А паўсюдна ствараць штучныя азёры нельга. Бо чалавеку да рыбкі хлеб патрэбен.

*/Наш кар./.*

■ Стыль жыцця

# "МНЕ ЛЁСУ ІНШАГА НЕ ТРЭБА"

ВЫРАШЫЎ: буду працаваць у школе. Гэты выбар для Мікалая Гіро быў свядомы. Але ніколі не думаў ён, што лёс падаруе яму — інакш не скажаш! — сустрэчу з іншымі дзецьмі, чые лёсы склаліся нялёгка і няпроста, хто з маленства зведаў боль і горыч страт і недзіцячыя клопаты. Зараз ужо можна сказаць, што сустрэча гэтая адбылася з узаемнай карысцю для абодвух бакоў.

Ад рашэння да ажыццяўлення былі некалькі няўдалых спроб «прабіцца» ў педагагічны інстытут замежных моў, работа ў вясковай школе піянерважатым, завочная вучоба на філфаку універсітэта, работа ў школе настаўнікам роднай мовы, потым сакратаром камсамольскага райкома.

Жыццё зрабіла круты паварот, калі з"явілася свая сям"я. Вырашылі пасяліцца ў Вілейцы, на радзіме жонкі. І тут многіх здзівіў небывала імклівы, быццам жнівеньскі зарапад, не ўзыход, — узлёт Гіро па лесвіцы службовай кар"еры. Некалькі месяцаў папрацаваў у аддзеле народнай адукацыі горада, потым інструктарам гаркома партыі, загадчыкам аддзела прапаганды. Хадзілі ўпартыя чуткі аб высокіх пасадах яго бацькоў, аб моцнай «руцэ» дзесьці ў вышэйшых партыйных колах. Ён толькі пасмейваўся. Пасады ў бацькоў сапраўды былі высокія — калгасны жывёлавод і паляводка на Лагойшчыне.

Гіро прыкметна вылучаўся на фоне тагачасных партыйных функцыянераў з іх аўтарытарным стылем абыходжання з людзьмі. Тым, што не саромеўся сумнявацца. Мяккасцю, што не выключала дзелавітасці. Сваёй інтэлігентнасцю, нарэшце. Інтэлігентнасцю не ў сэнсе ўзроўню адукаванасці і інфармаванасці. Інтэлігентнасцю як стылем жыцця і манерай паводзін, у самым першапачатковым, лепшым сэнсе гэтага слова. Інтэлігентнасцю, якой нельга не заўважыць.

Разам з «партфелем» загадчыка аддзела партыйнага камітэта атрымаў Мікалай Мікалаевіч безліч розных дадаткаў у выглядзе грамадскіх нагрузак. Нягледзячы на ўяўны дэмакратызм і рэгулярныя выбары, пасады намёртва былі прыклеены да аддзела прапаганды. Шматлікія таварыствы, фонды, камітэты, работа ў якіх вялася дзеля «птушачкі», дзеля бачнасці.

Гіро так працаваць не мог. А паспрабаваў ажывіць работу кожнага з іх — убачыў, што аднаму чалавеку не асіліць.

Але зменлівае яно, кола фартуны. Пераменлівая путцяводная зорка — жывём з пастаянным адчуваннем то злоўленага, то выслізнуўшага з рук шчасця.

Так здарылася, што давялося Мікалаю Гіро другі раз прыйсці ў школу. На гэты раз у трэцюю гарадскую, у якасці педагога-арганізатара.

З лёгкім сэрцам скінуў цяжар непатрэбных нагрузак. Не змог адмовіцца ад адной — узначальваць раённае аддзяленне Дзіцячага фонду. Па-першае, таму, што гэта супадае з яго асноўнай справай — работай з дзецьмі. Па-другое, не мог маральна адмовіцца ад тых абдзеленых лёсам дзяцей, якія паверылі ў яго шчырасць. Па-трэцяе, гэта не была ўжо проста пачэсная пасада. Згуртаваў вакол сябе зацікаўленых людзей, наладзіў кантакты, знайшоў спонсараў. Усё на карысць дзецям-сіротам, інвалідам, малазабяспечаным.

Памятаю, я прыйшла да Мікалая Мікалаевіча са скаргай, якую выказалі чытачы: аб"явілі, што за мяжу на аздараўленне паедуць дзеці з малазабяспечаных сем"яў, а тут — сын старшыні сельсавета. Ісціна хутка высветлілася: аб розных паездках ішла гаворка. Але Гіро засмуціла іншае — няўжо людзі могуць западозрыць у няшчырасці, двурушніцтве? Хаця сам ён ні разу душой не пакрывіў.

Да Мікалая Гіро ідуць пакрыўджаныя лёсам і людзьмі матулі, бабулі, апекуны. Не проста за дапамогай, а таму, што ў іншых кабінетах не знайшлі страчанага з гадамі пачуцця — умення суперажываць. Кажуць, гэта ўласціва толькі жанчынам. Мікалай Мікалаевіч умее суперажываць не горш за нас. А адсутнасць высокага партыйнага кабінета не перашкаджае аператыўна вырашаць многія пытанні. Праўда,і сіл, і часу на гэта трэба зараз больш. Яго ўласных сіл і ўласнага часу.

А як жа асноўная яго работа — школьная?

Мікалай Мікалаевіч усміхаецца:

— А гэта ўсё звязана.

Другі раз пачынаць у школе — нават цяжэй, чым упершыню. Па-першае, узрост ужо не самы спрыяльны для самасцвярджэння. Па-другое, адбыўся пераход гэты тады, калі прыналежнасць да партыйнай наменклатуры асацыіравалася ў грамадстве з кар"ерызмам і бяздумнасцю, стала нечым накшталт заганнага ярлыка.

Першая чвэрць у трэцяй гарадской. Цяжка, напэўна, знайсці чалавека, які б так адразу адчуў сябе на «сваім месцы». У школе выдумваў усё новае і новае для дзяцей. Цікавае і карыснае. Рабіў сам і захапляў іншых. Бацькі, дзеці, ды і педагогі ўспрынялі Гіро менавіта так. Але асобныя скептыкі сярод калег убачылі ў імкненні працаваць імкненне да кар"еры, падкоп пад аўтарытэт. Адчужанасць адчулася адразу.

Дырэктар першай гарадской школы Святаслаў Клямячыц на пасаду намесніка дырэктара яго доўга не ўгаворваў. Растлумачыў прычыну сваёй прапановы:

— Хачу, каб школа «загаварыла».

Гіро зразумеў: гэтае «загаварыла» звязваюць з яго асобай. Гэта яму падыходзіла. Ён згадзіўся адразу.

І школа «загаварыла» адразу. Новымі, дасюль не апрабаванымі формамі пазакласнай работы. Большым дэмакратызмам у навучанні. І адметна — усё гэта рабілася не напаказ, а для дзяцей, рукамі і выдумкамі саміх дзяцей.

У яго цудоўная сям"я. Яго добра разумее жонка, два сыны. А сутыкацца даводзіцца з сем"ямі, дзе для дзяцей няма ні адной кніжкі, ні адной цацкі.

Спачатку, калі сутыкаўся з гэтым, хацелася плакаць. Пазней прыйшло жаданне весці барацьбу за кожнага з іх, дапамагчы кожнаму, стаць для кожнага бацькам, маці, братам, сябрам. З гэтымі абяздоленымі дзецьмі ён зжыўся, дапамагаць ім стала патрэбнасцю яго душы. Не дзеля грошай — дзеля іх саміх, як раней казалі, на грамадскіх асновах.

Гэтым і запоўнены ўвесь яго працоўны тыдзень — з панядзелка да пятніцы. І ўрокі, і школа тут не перашкода. На ўроку роднай мовы прачытаў газетныя публікацыі аб дзецях, пакінутых бацькамі, аб дзецях-інвалідах. І з"явілася тэма чарговага сачынення — «Як добра, калі ў родным доме цёпла». Калі задумаюцца над гэтым вучні — лічы, палавіна выхавання ёсць.

Надумаў — і арганізаваў у школе атрад міласэрнасці. Вучні наведваюць равеснікаў-інвалідаў, чытаюць ім кнігі, гуляюць з імі.

Прапанаваў Гіро сямікласнікам гэтую ідэю — хто жадае? І першы падняў руку адзін з цяжкіх і непаслухаючых. Мікалай Мікалаевіч доўга потым перажываў, што адразу не разгледзеў за яго «тройкамі» чулую і спагадлівую душу.

— З ім побач адчуваеш сябе чалавекам, — так сказаў пра Гіро адзін з такіх, «цяжкіх». — Часта педагогі адчужаны ад дзяцей, ён жа нам — як старэйшы таварыш.

А нядаўна прапанаваў калегам сабраць грошы, каб купіць цацкі для дзіцячага аддзялення бальніцы. Калегі падтрымалі яго. Як добра, што ў добрых справах побач паплечнікі, сябры, аднадумцы. Такімі ён лічыць калег-педагогаў. Такая і жонка Ірына. Яна дзіцячы ўрач і з кожнага выкліку вяртаецца з навінамі — ёсць яшчэ адна сям"я, дзе дзецям патрабуецца дапамога. Такія і яго сябры з далёкага нямецкага Оберхаўзена. Гэта яны на свае сродкі штогод прымаюць у сябе групу дзяцей з Вілейшчыны, прысылаюць лекі, адзенне, грошы.

Не ведаю, адкуль урэзаліся ў памяць радкі:

Я вам [illegible], пока дышу,
Пока [illegible] мною рядом,
Я в сердце [illegible] ношу,
И мне судьбы [illegible]ругой не надо.

Здаецца, што і Мікалай Гіро мог бы сказаць пра сябе гэтак жа.

*Наталля ВАЛЫНЕЦ.*

# З ТАЛЕНТАМ ЗАЙЗДРОСНЫМ

Настаўніцу Пліскай сярэдняй школы С.М.Белую часта можна бачыць у аддзеле адукацыі Смалявіцкага райвыканкома. Справа ў тым, што яна з"яўляецца кіраўніком раённага метадычнага аб"яднання педагогаў, якія працуюць у пачатковых класах. Багаты вопыт работы ў гэтай жанчыны. Ёсць чым падзяліцца з іншымі.

— Настаўніца па прызванню, — кажуць пра яе.

Такая павага да Святланы Міхайлаўны не ўпала з неба, а заваёўвалася напружанай працай. Нарадзілася ў вёсцы Чорная Сцежка гэтага ж раёна. Завочна закончыла факультэт педагогікі і методыкі пачатковага навучання Мінскага педагагічнага універсітэта. Працу ў школе пачала з пасады піянерважатай. Менавіта тады яна і выбрала сваім дэвізам словы слыннага педагога В.А.Сухамлінскага: "Сапраўдная школа — гэта шматграннае духоўнае жыццё дзіцячага калектыву, у якім выхавальнік і выхаванец аб"яднаны мноствам інтарэсаў і захапленняў. Чалавек, які сустракаецца з вучнямі толькі на ўроку — па адзін бок настаўніцкага стала, а па другі навучэнцы, — не ведае дзіцячай душы, а хто не ведае дзіця, той не можа быць выхавальнікам". З такімі думкамі яна прыходзіць на кожны ўрок і цяпер.

Дарэчы, пачатак педагагічнай сцяжынкі С.М.Белай лёгкім не назавеш. Працавала ў Шэметаўскай, Смольніцкай, Вяліказалужскай пачатковых школах. З-за адсутнасці вучняў яны паступова закрываліся. Зведала "смак" пасады выхавальніцы інтэрната Прылепскай СШ. З 1979 года настаўнічае, як ужо адзначалася, у Пліскай сярэдняй школе, якую ў свой час заканчвала сама.

Святлана Міхайлаўна добра ведае характар і здольнасці кожнага дзіцяці, афарміла навучальны кабінет, у якім рацыянальна падабраны, прадумана размешчаны абсталяванне, дыдактычны матэрыял, падручнікі, табліцы і многае іншае, што дапамагае дзецям рабіць свае першыя маленькія адкрыцці. Па заказу абласнога інстытута ўдасканалення настаўнікаў распрацавала праграму ўрокаў чытання для першакласнікаў. Аддзел адукацыі Смалявіцкага райвыканкома абагульніў вопыт яе работы на тэму: "Выкарыстанне дыдактычных гульняў у працэсе навучання".

*Іван АНТОНЧЫКАЎ.*

■ В ИСПОЛКОМЕ ОБЛАСТНОГО СОВЕТА

# Конверсия: клубок проблем

**В области расположено 9 предприятий, которые в связи с конверсией перепрофилируют производство на выпуск мирной продукции. Как идет столь трудный и сложный процесс? Об этом шел разговор на очередном заседании исполкома областного Совета.**

Удельный вес продукции, выпускаемой для нужд обороны, уменьшился на них с 35 процентов в 1990 г. до 14 — в 1993 году, а производство продукции гражданского назначения и товаров народного потребления возросло соответственно за этот период с 65 до 86%.

Доля вновь освоенной продукции увеличилась более чем в 2 раза. Повысилась эффективность использования финансовых средств. Не допустили снижения темпов роста молодечненский завод "Спутник", "Кобальт" в г.п.Плещеницы, Слуцкий завод измерительной аппаратуры, Стародорожский филиал объединения "Калибр". Удельный вес товаров народного потребления в общем объеме увеличился по конверсируемым предприятиям области с 39,2% в 1992 г. до 50,5% в минувшем.

Одной из острых является проблема взаимных неплатежей. Сумма задолженности конверсионных предприятий предприятиям — поставщикам сырья и комплектующих составила по состоянию на 1 мая 8,7 млрд.рублей, а их встречная задолженность — 10,5 млрд.рублей. Остатки готовой продукции на складах составили в целом почти 24 млрд.рублей.

В прошлом году только три предприятия вышли на внешний рынок.

Значительный спад производства произошел на заводе "Зенит", ПО "Экран", Клецком механическом и логойском заводе "Эпос". По конверсионным предприятиям области в 1993 году недополучено товаров народного потребления на сумму 1,8, в январе-апреле — 8,2 млрд.рублей. Велика доля временно не используемых в производстве основных фондов в этом году в связи с сокращением военных заказов на заводах "Зенит" /45,5%/ и "Эпос" /68%/.

На некоторых предприятиях /ПО "Электромодуль" /Молодечно/, завод измерительной аппаратуры /Слуцк/, Клецкий механический завод/ затянулся выбор приоритетных направлений развития. Молодечненское ПО "Электромодуль", имея большой научно-технический потенциал, в том числе и для сельскохозяйственного машиностроения, практически не задействовано в общереспубликанской программе структурной перестройки промышленности.

Борисовский и Молодечненский горисполкомы, Стародорожский и Логойский райисполкомы недостаточно активно участвуют в решении вопросов, связанных с конверсией и перепрофилированием производства, координацией деятельности предприятий по выпуску товаров народного потребления, как того требует Закон Республики Беларусь "О местном самоуправлении и местном хозяйстве".

На снижении эффективности работы конверсионных предприятий сказываются недостаточность выделяемых кредитных ресурсов на льготных условиях для пополнения оборотных средств и реализации программ конверсии, несовершенство налоговой системы в интересах стимулирования научных разработок и заинтересованности предприятий в наращивании производства.

Исполком областного Совета депутатов отметил, что проводимая на предприятиях бывшего оборонного комплекса работа по конверсии и перепрофилированию производства еще не в полной мере соответствует предъявляемым требованиям и интересам рыночного спроса.

Акцентировано внимание руководителей конверсионных предприятий на разработке и внедрении в производство конкурентоспособных видов продукции, и прежде всего товаров народного потребления, включая технически сложные изделия.

Поручено управлению торговли, облсельхозпроду совместно с комитетом экономики облисполкома перечень требуемых изделий и товаров направить предприятиям для учета при проведении перепрофилирования производства.

Определен ряд других мер по стабилизации обстановки на конверсионных предприятиях.

# НА ПРАКТЫКУ — З ПЕРСАНАЛЬНАЙ ВЫСТАВАЙ

З дзяцінства Сяргей Казлоўскі захапляўся маляваннем. Хто толькі не "трапляў" на яго карціны: і бацькоўская хата, і буслінае гняздо на ліпе-векавусе, і сцяжынка, што бяжыць за гарызонт. Маляваў партрэты сяброў: каго вярхом на кані, каго за плугам ці на ўроку. У школе па гэтаму прадмету ў яго былі толькі "пяцёркі". Закончыўшы адзінаццаць класаў, паступіў у Кобрынскае вучылішча народных мастацкіх промыслаў.

Цяпер Сяргей на практыцы ў Морацкай СШ Клецкага раёна.

— Чаму там цябе навучылі? — спыталі настаўнікі свайго былога выпускніка.

— У двух словах не раскажаш. Трэба глядзець маю працу, — адказаў юнак.

Праз дзень педагогі і вучні не пазналі адзін са школьных пакояў. Ён нагадваў карцінную галерэю. Эцюды, напісаныя алеем, зачароўвалі, бралі ў палон, не адпускалі, прымушалі "ўчытвацца" ў іх.

На персанальнай выставе работ былога выпускніка школы марачане ўбачылі прыгажосць роднай зямлі: стужку блакітнай рэчкі, над якой плывуць, перакульваючыся, воблакі, кавалачак пасівелага, загадкавага лесу, хаты роднай вёскі. Усё так натуральна пададзена, што да многага хочацца дакрануцца рукою.

У Морацкай СШ абсталяваны кабінет творчых майстроў, у якім займаюцца ўдзельнікі гурткоў лозапляцення, разьбы па дрэву. Дарэчы, у мясцовым калгасе адкрыты цэх па вырабу рэчаў з лазы, што забяспечыць школьнікам у будучым рабочыя месцы. Прыйдуць яны ў гэты цэх падрыхтаванымі спецыялістамі. Няма сумнення, што падрыхтуе школа і выдатных разьбяроў па дрэву. Ім сваё майстэрства перадае Сяргей Казлоўскі — практыкант вучылішча народных мастацкіх промыслаў, у якое пасля заканчэння школы вырашылі паступаць многія сённяшнія гурткоўцы.

*Уладзімір АНТОНАЎ.*

Тысячам жыхароў вобласці вярнулі здароўе людзі ў белых халатах. Вялікі калектыў Мінскай абласной клінічнай бальніцы працуе, выкарыстоўваючы сучасную дыягностыку і лячэбнае абсталяванне. Так, у аддзяленні эндаскапіі ў лічаныя хвіліны могуць паставіць дакладны дыягназ, звязаны з захворваннямі ўнутраных органаў — бронхаў, страўнікава-кішачнага тракту, жоўцевыводзячых шляхоў і г.д.

**На здымку:** загадчык аддзялення эндаскапіі **М.Г.Івашка** і медсястра **Н.І.Фамічова** ў час аперацыі.

*Фота Анатоля БАСАВА.*

■ Энтузіясты

# СВЯТЛО ДАБРЫНІ

Лашанская сельская бібліятэка — адна з лепшых на Уздзеншчыне. Яе руплівая гаспадынька Людміла Васільеўна Салавей абслугоўвае жыхароў васьмі вёсак. Вось ужо на працягу звыш двух дзесяцігоддзяў. Прыехала сюды маладзенькай, улюбёнай у сваю справу, пасля заканчэння бібліятэчнага тэхнікума. Але на гэтым не спынілася — прадоўжыла адукацыю ў інстытуце культуры. Гэта як нельга лепш паспрыяла ў рабоце.

У 1987 годзе бібліятэка "пераехала" са старога памяшкання ў былы будынак мясцовага выканкома. З гэтага часу яна пачала новае жыццё. Бібліятэкарцы давялося прыкласці шмат намаганняў, каб змястоўна аформіць фонд, зрабіць пакоі ўтульнымі, "з кветкамі". Тут размясціліся абанемент для дарослых, чытальная зала, дзіцячае аддзяленне, кнігасховішча.

Людміла Васільеўна ўзяла за аснову сваёй дзейнасці прапаганду народнай спадчыны, творчасці мастака-земляка. Яшчэ пры жыцці падараваў некалькі сваіх карцін бібліятэцы мясцовы мастак, свёкар бібліятэкаркі Іван Аляксандравіч Салавей. Спраўдзілася мара Людмілы Васільеўны стварыць пры бібліятэцы выставачную залу твораў жывапісца. Яна здолела зацікавіць людзей, якія дапамаглі сабраць карціны, дакументальныя звесткі. Вялікую дапамогу аказаў тутэйшы ляснічы Рыгор Іванавіч Салавей, сын мастака і муж Людмілы Васільеўны.

Наведвальнікі падоўгу разглядваюць з замілаваннем напісаныя пейзажы роднага краю — "Зубры", "Бярозавы гай", "Краявіды Загоршчыны"...

Невялікі музей знаёміць вяскоўцаў з асабістымі рэчамі мастака. Сярод іх мальберт, членскі білет Саюза мастакоў, кнігі, якімі ён захапляўся. Смерць абарвала жыццё здольнага чалавека, але засталася яго спадчына. І гэтую спадчыну нясе людзям паўпрэд культуры Людміла Васільеўна Салавей. Выставу наведваюць сельскія працаўнікі, вучні школ раёна, прыязджаюць мастакі.

У чытальнай зале звяртае на сябе ўвагу краязнаўчы куток "Мой край, што Уздзенскім названы". Тут сабрана шмат матэрыялаў пра знакамітых землякоў, ёсць тэматычныя папкі: "Адкуль у вёскі імя", "Людзі нашай вёскі", краязнаўчы куток аформлены ў нацыянальным стылі, з выкарыстаннем лепшых твораў народных умельцаў.

Людміла Васільеўна асаблівую ўвагу надае рабоце з юнымі чытачамі, імкнецца прывіць ім любоў да кнігі, мастацкага слова. Прываблівае дзіцячы пакой, які ўпрыгожаны нацюрмортам, напісаным мастаком-земляком, тут шмат цацак, малюнкаў, рэчаў, зробленых рукамі хлапчукоў і дзяўчынак. Усё гэта дзеля таго, каб зацікавіць дзяцей, стварыць атмасферу пошуку, творчасці.

Школьнікам падабаюцца мерапрыемствы, якія праводзіць бібліятэка. Сярод іх ранішнікі "Кніга — твой сябар, беражы яе", "Хай заўжды свеціць сонца", гульня "Што? Дзе? Калі?", гульня-падарожжа "У краіну Рабінзонаў". Добрай традыцыяй сталі ў бібліятэцы "Кніжчыны імяніны", якія праводзяцца на Тыднях дзіцячай кнігі.

Пры культурнай установе плённа працуе клуб "Ліра". Гэта — для аматараў паэзіі. Яго актыўныя ўдзельнікі — вучні мясцовай школы.

Актывісты бібліятэкі шмат робяць па адраджэнню і ўкараненню народных святаў і абрадаў. Штогод на Лашанскім возеры цікава і запамінальна праходзіць "Купалле". Людміла Васільеўна — завадатар дзіцячай пляцоўкі, розных конкурсаў, вiктарын.

— Святло яе душэўнай дабрыні, спагады да людзей не можа не радаваць, — расказвае метадыст раённай бібліятэкі Г.А.Макей. — І не адна яна такая сярод культасветработнікаў. Зазірніце, калі ласка, у Калінінскую сельскую бібліятэку, у Слабодскую.

У Калінінскай бібліятэцы дваццаць шэсць гадоў працуе Ганна Сяргееўна Драчан. Для кожнага яна знаходзіць добрае слова, параіць-падбярэ кнігу па густу. Добра ведае схільнасці сваіх сяльчан, стараецца задаволіць усе іх просьбы.

Яшчэ большы працоўны стаж у загадчыцы Слабодскай бібліятэкі Рэгіны Адольфаўны Дубовік — ажно трыццаць тры гады. Нягледзячы на шаноўны ўзрост яна заўсёды ў творчым пошуку.

Так, дабро выкрасае дабро. У наш нялёгкі, тлумны час цікавая, разумная кніга — і сябар, і памочнік, і спадарожніца бадзёрага настрою.

*Алесь МІХАСЕНКА.*

# КАЛІ ТАНЕЦ — ПРЫЗВАННЕ

## ШТРЫХІ ДА ТВОРЧАГА ПАРТРЭТА МАСТАЦКАГА КІРАЎНІКА І БАЛЕТМАЙСТРА ТАНЦАВАЛЬНА-ХАРАВОГА АНСАМБЛЯ МІНСКАГА МАТОРНАГА ЗАВОДА МІКАЛАЯ КОТАВА

У кожнага з нас свой лёс, свая прафесія, сваё прызванне. Мікалай Конанавіч Котаў з дзяцінства выбраў народна-бытавы танец. Чуйным сэрцам, улюбёным у мастацкую спадчыну продкаў, ён апантана шукае, збірае і адраджае ў першародней красе дыяменты фальклору. У яго творчым куфэрку мноства каларытных народных песень і гульняў, карагодаў і абрадаў, якія сабраў у сваім дзівосным палескім краі — на Тураўшчыне. Там, над Прыпяццю, пачынаўся яго фальклорна-танцавальны скарб. Ён днямі і вечарамі чараваў над карункамі народна-бытавых карагодаў, падгледжаных у блізкіх і далёкіх куточках родных мясцін. Потым асцярожна, нібы хрусталь, пераносіў іх на сваю творчую пляцоўку — у свой танцавальны ансамбль, які стаў тады знакамітым на ўсю рэспубліку. Дарэчы, яго талент дапамог тром калектывам стаць народнымі. Хутка і чацвёрты будзе абараняць такое званне на Мінскім маторным заводзе. У асобе Мікалая Конанавіча, лічу, закладзены два таленты — балетмайстра і рэжысёра. Таму кожнае канцэртнае выступленне яго калектыву вызначаецца арыгінальнай і гарманічнай кампазіцыяй, паэтычнасцю, любоўю да Бацькаўшчыны. Ён умее «змацаваць» ў яркае відовішча глыбокі роздум, пяшчотную лірыку, гарэзлівы гумар. Мікалай — пастаянны творчы кансультант Морацкага народнага хору Клецкага, Голацкага народнага хору Пухавіцкага раёнаў, народнага хору Слуцкага мясакамбіната. Яго часта запрашаюць на пастаноўку танцаў у Дзяржаўны акадэмічны хор імя Г.Цітовіча, тэатр гістарычнай драмы і камедыі, Беларускую акадэмію мастацтваў, Нацыянальны тэатр імя Янкі Купалы, Дзяржаўны ансамбль «Свята».

Нягледзячы на сталы ўзрост ён і сам танцуе на зайздрасць маладым. Імпэт, іскрамётнасць, жарт, весялосць — усё гэта ўласціва для М.Котава. Дарэчы, на яго рахунку больш за 100 харэаграфічных пастановак. Яго творчая праца адзначана Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета рэспублікі, дыпломамі лаўрэата шматлікіх рэспубліканскіх і рэгіянальных конкурсаў і фестываляў.

Галоўны свой абавязак ветэран культасветработы бачыць у тым, каб яго пастаноўкі танцаў прыносілі радасць і асалоду людзям.

*Адольф СУРЫНОВІЧ.*

## Осторожно: фальшивка!

**В издательском доме "Новое время" /М., 1993/ под авторством Виктора Суворова вышла книга "Ледокол". Название безобидное, но под ним кроется опасное для сознания нынешних поколений содержание. Книга имеет подзаголовок: "Кто начал вторую мировую войну?" Она претендует на переворот в исторической науке о минувшей войне. Переворота не получилось, но фальшивка — высшей пробы.**

Виднейшие отечественные и зарубежные историки и политики окончательно сошлись на том, что вторую мировую войну развязали германские фашисты во главе с Гитлером нападением 1 сентября 1939 г. на Польшу, которая была связана договорами с Англией и Францией. В книге же "Ледокол" фальсифицируются факты, связанные с началом и ходом второй мировой войны; все поставлено с ног на голову.

Ведь, оккупировав после захвата Польши почти всю Западную Европу, Гитлер захватил вооружение покоренных стран, подчинил себе их экономику, а получая на протяжении ряда лет от западных держав огромные суммы долларов, материалы для немецкой военной промышленности, создал невиданную военную машину. Это была подготовка к осуществлению целей германского империализма.

Считая главным препятствием на пути к мировому господству Советский Союз, Гитлер подготовил и 22 июня 1941 г. совершил на него вероломное нападение. Сюда он бросил 190 дивизий /немецких и войск сателлитов/. Советский народ ответил на гитлеровское нападение Великой Отечественной войной, в ходе которой он и его Вооруженные Силы, выдержав величайшие испытания, проявив невиданную стойкость и мужество, наголову разгромили агрессора.

О начале и ходе второй мировой войны, главной и решающей составной частью которой явилась Великая Отечественная война Советского Союза, виднейшие отечественные и зарубежные историки написали на широкой документальной базе многочисленные монографии, коллективные многотомные труды и однотомники. На основе военной историографии и документов в США вышел даже большой киносериал "Неизвестная война". И в целом у мировой общественности сложилось правдивое представление о минувшей войне.

Но вот появляется фальшивка В.Суворова. Вообще это псевдоним Владимира Богдановича Резуна, 1947 года рождения, войны не видевшего. Его отец Богдан Васильевич прошел всю войну, был тяжело ранен, выжил. Он считал и считает: не мы напали на Германию, а гитлеровцы — на нашу Родину. И за эту книгу отец отрекся от своего сына.

Владимир Богданович окончил суворовское военное и общевойсковое командное училища. Работал офицером разведуправления военного округа. В 1974 г. окончил Военно-дипломатическую академию. Четыре года был военным атташе /в звании майора/ в резидентуре Главного разведуправления /ГРУ/ Генштаба СССР в Женеве. В 1978 г. изменил Родине, бежал в Англию. За предательство осужден к смертной казни. В предисловии к русскому изданию книги пишет: "Мои приговоры заслужены мной полностью. Я не прошу прощения за свое предательство".

Назначение книги "Ледокол" — оправдать ложную, чудовищную версию Гитлера — Геббельса, пущенную ими в ход в самом начале войны против СССР: она предпринята превентивно, упреждающе, чтобы не допустить, мол, его агрессии против Германии, да и всей Западной Европы. Эту версию давно перепевала злобствующая часть историков и политиков Запада. Но не получив поддержки со стороны здравомыслящей общественности, она притихла. А теперь вот книга "Ледокол"...

Но Суворов ли ее автор?

# "ЛЕДОКОЛ" ПРЕДАТЕЛЯ

Редакция "Красной звезды" 14 апреля 1993 г. дала справку о том, что в результате проведенной экспертизы сделан вывод: книга "Ледокол" написана западными специалистами оперативно-стратегического звена. Участие в ней лично Резуна чувствуется в определенных литературных приемах, жаргоне, междометиях. В "Красной звезде" приведена выдержка из характеристики Резуна за первый год работы в Женеве. В ней сказано, что работник он слабый, низкого уровня, был лишь "на подхвате".

Ясно, что такой работник не способен был собрать и обработать приведенное в книге обилие фактов, данных, цифр, цитат многочисленных авторов даже одностороннего порядка /Маркса, Энгельса, Ленина, Троцкого, Сталина, всех советских маршалов периода войны, десятков видных генералов/, статей из журналов, газет.

У него не было способностей, чтобы сделать чудовищную фальшивку. Такое по плечу лишь группе "специалистов" высокого уровня. К тому же в книге нет архивных материалов — ни отечественных, ни немецких, ни английских, ни американских. Ее технология — вымысел, подтасовка, извращение, явная ложь, клевета на героический советский народ и его доблестные Вооруженные силы.

Но поскольку книга "Ледокол" вышла без объективных комментариев военных историков, она воспринимается многими как последняя истина о второй мировой войне, передается читателями из рук в руки, активно формируя не просто искаженное, а в корне извращенное мнение. Книга затрагивает святая святых нашего народа — Великую Победу, добытую ценой неимоверных испытаний и огромных жертв. Цель книги выражена просто: доказать, что не Германия, а "Советский Союз — главный виновник и главный зачинщик войны" /стр.5/. Это невиданное оскорбление нашего народа, всех, кто воевал против фашизма.

В книге сделана попытка показать, будто у фашизма и социализма, хотя и деформированного, одни и те же корни, одна основа, что просто кощунственно. При каком же строе, как не при советском, Резун получил образование, стал офицером? В центре книги не борьба двух коалиций в капиталистической системе, из-за которой нападением Германии на Польшу разразилась вторая мировая война, и не борьба двух социальных систем — капитализма /фашизма/ и социализма, а будто бы подготовка Сталиным агрессивной, захватнической войны с целью установления мирового господства коммунистической системы. Ни слова нет о ленинской идее мирного сосуществования государств разных социальных систем.

Зато есть выдумка, будто Гитлер искусно использовался Сталиным как "Ледокол Революции" против западного мира. Но Гитлер якобы упредил Сталина, не дал ему захватить весь мир.

На страницах книги умалчивается о мюнхенском сговоре Гитлера с главами правительств Англии, Франции, Италии осенью 1939 г., который для фюрера означал "разрешение на войну". Совершенно обойдены предложения Советского Союза о создании в Европе системы коллективной безопасности как меры против агрессии. Игнорируется тот факт, что Советский Союз пошел на подписание 23 августа 1939 г. пакта о ненападении с Германией лишь тогда, когда военные делегации Англии и Франции отказались подписать соглашение с СССР об обуздании гитлеровской агрессии.

Но ведь иного выбора у СССР тогда не было, ибо война угрожала ему на два фронта — от Германии и от Японии, а страна к ней готова не была. Освободительный поход Красной Армии в Западную Белоруссию и Западную Украину с 17 сентября 1939 г. изображается как агрессия, хотя на деле это было закономерное воссоединение народов.

В книге на лживых материалах показывается, что СССР готовился не к обороне от фашистской Германии, а к нападению на нее. Но не раскрывается разработка гитлеровцами плана "Барбаросса", имевшего целью молниеносную войну против СССР, ликвидацию Советского государства, а также плана "Ост". Вообще получается, будто и не было нападения гитлеровцев на нашу страну, не было их чудовищных злодеяний и зверств, приведших к гибели 27 млн. советских людей, в том числе 2,2 млн. в Белоруссии, потери Советским Союзом одной трети национального богатства. Гитлер и его окружение полностью оправдываются. Но ведь был в Нюрнберге Международный трибунал над военными преступниками. Была Великая Победа над агрессором, решающую роль в которой сыграл Советский Союз с участием других членов антигитлеровской коалиции.

В заключение следует сказать, что книга "Ледокол" — новая злобная попытка, теперь уже с использованием псевдонима В.Б.Резуна, в унисон развалу СССР, обнищанию его народов очернить перед мировой общественностью величие нашей Победы над фашизмом, спасшей от коричневой чумы все человечество.

*Профессор*
*Е. ПРИМЕРОВ,*
*доктор исторических наук.*

## Спорт

# ЗА МЕСЦА Ў ПАЎФІНАЛЕ

У партугальскіх гарадах Порта і Алмада праходзіць чэмпіянат Еўропы па ручному мячу сярод мужчын.

Зборная Рэспублікі Беларусь трапіла ў падгрупу разам з камандамі Расіі, Германіі, Францыі, Румыніі і Харватыі. Каб выйсці ў паўфінал, трэба заняць першае ці другое месцы, набраўшы не менш шасці-сямі ачкоў. На сённяшні дзень наша каманда мае ў сваім актыве чатыры ачкі пасля трох матчаў.

На старце чэмпіянату беларускія гандбалісты сустракаліся са зборнай Германіі. Толькі на пятай мінуце немцы адкрылі лік, але тут жа Андрэй Парашчанка ўстанавіў раўнавагу. Роўная гульня працягвалася ўвесь першы тайм, хаця на перапынак немцы пайшлі, маючы ў запасе два мячы — 12:10.

Актыўна пачала другую палову гульні каманда Беларусі. Трапныя кідкі Генадзя Халепы, Міхаіла Якімовіча, Андрэя Барбашынскага выводзяць нашу каманду наперад з перавагай у чатыры мячы. Калі здавалася, што перамога забяспечана, нямецкія гандбалісты змаглі адыграць страчанае, і за дзве мінуты да заканчэння гульні на табло высвечваліся лічбы 23:23.

Апошнюю кропку ў гэтым паядынку паставіў Міхаіл Якімовіч. Яго гол стаў пераможным — 24:23.

На другі дзень нашы гандбалісты гулялі са зборнай Расіі і ўступілі — 23:31.

Вельмі прынцыповы быў нядзельны матч з камандай Румыніі, якая чатыры разы была чэмпіёнам свету, займала прызавыя месцы на Алімпійскіх гульнях. Спартсмены нашай рэспублікі адразу ж захапілі ініцыятыву і ўжо ў першай палове гульні мелі прыкметную перавагу — 14:9. Не ўпусцілі яны свой шанц і пасля перапынку, выйграўшы матч з лікам 33:24. Дзевяць мячоў у вароты немцаў правёў Генадзь Халепа, выдатна згулялі Міхаіл Якімовіч, Андрэй Парашчанка, Андрэй Мінеўскі, Канстанцін Шаравараў, Андрэй Барбашынскі, Андрэй Клімавец. Толькі для выканання сяміметровых штрафных выходзіў на пляцоўку Уладзімір Гольдзін, але ў яго пяцідзесяціпрацэнтны паказчык — два пенальці рэалізавана і два промахі. Выдатна правёў матч наш варатар Аляксандр Мінеўскі.

Сёння зборная Беларусі гуляе з сярэбраным прызёрам чэмпіянату свету камандай Францыі, а заўтра сустракаецца з харватамі.

# У КАМАНДЗЕ І АСАБІСТА

На чэмпіянаце Еўропы па спартыўнай гімнастыцы ў Празе ў камандных спаборніцтвах сярод мужчын бліскуча выступіла зборная Беларусі, якая заняла першае месца. За "залатую" каманду выступалі Іван Іванкоў, Віталь Шчэрба, Андрэй Кан, Аляксандр Шостак і Віталь Рудніцкі. Нашы гімнасты на 0,44 бала апярэдзілі спартсменаў Расіі, на трэцім месцы зборная Германіі.

Чэмпіёнам Еўропы ў мнагаборстве стаў мінчанін Іван Іванкоў.

# ВЯРНУЛІСЯ З КУБКАМ

Вялікая група аматараў бегу з нашай рэспублікі выязджала для ўдзелу ў гановерскім марафоне ў Германіі.

У абсалютным першынстве мінчане Сяргей Давыдзька і Сяргей Казлоў адпаведна занялі адзінаццатае і дванаццатае месцы, а ў сваіх узроставых групах — пятае і шостае. Мужчынская каманда Беларусі выйшла на першае месца і вярнулася ў Мінск з кубкам.

Сярод жанчын трэцяе месца ва ўзроставай групе да 50 гадоў заняла мінчанка Ларыса Леўчанка, а сярод старэйшых — Яніна Ляпіна.

# ГОСЦІ БЫЛІ МАЦНЕЙШЫЯ

У 27-м туры чэмпіянату Рэспублікі Беларусь па футболу ў сямі матчах з васьмі гаспадары поля пацярпелі паражэнне. Толькі мінскія тарпедаўцы, якія прымалі гродзенскі "Нёман", дабіліся перамогі з лікам 1:0.

Лідэры чэмпіянату дынамаўцы Мінска гулялі ў Віцебску супраць "Лакаматыва" і перамаглі — 2:0. Цяпер у іх 46 ачкоў. У астатніх трох матчах дынамаўцам дастаткова ўзяць адно ачко, каб стаць чэмпіёнам. На пяць ачкоў адстае "Дынама-93", якое з лікам 2:1 выйграла ў "Гомсельмаша". Гэты вынік, дарэчы, зафіксаваны яшчэ ў трох сустрэчах. Магілёўскі "Днепр" выйграў у сваіх землякоў-тарпедаўцаў, бабруйскі "Фандок" перамог дынамаўцаў Брэста, а "Шыннік" — старадарожскі "Будаўнік". Футбалісты Старых Дарог на наступны сезон развітваюцца з першай лігай.

Прайгралі ў прайшоўшым туры каманды "Маладзечна" і "Шахцёр". З аднолькавым лікам — 0:1 яны ўступілі "Ведрычу" і "КІМу".

Матчы наступнага тура адбудуцца 8 і 9 чэрвеня.

У другой лізе ўпэўнена лідзіруе лідскі "Абутнік", які мае ўсе шанцы перайсці ў групу мацнейшых.

Цэнтральным матчам 28-га тура ў трэцяй лізе стала сустрэча лідэраў — мінскай каманды "Атака-Аура" і гродзенскай "Кардан-Флайерс". Гродзенцы перамаглі з лікам 2:0, і цяпер абедзве каманды маюць па 45 ачкоў. Прайгралі ў гэтым туры і барысаўчане — у Наваполацку яны ўступілі "Нафтану" з лікам 0:2.

*/НАШ КАР./.*

